**За зямлю і волю!**

# Інфармацыя арганізацыям Беларускай Сялянскай Партыі

Шаноўныя сябры! Па ініцыятыве БСП утвораны аргкамітэт "Зямля і воля". Гэты орган будзе дзейнічаць на перыяд падрыхтоўкі правядзення прэзідэнцкіх выбараў. Галоўнае для нас — аб'яднаць людзей, якія жадаюць перамен у грамадстве, і прыцягнуць іх да практычнай работы. Мэты і задачы вызначаны ў заяве аргкамітэта.

Нагадваем пра асаблівасці дзейнасці аргкамітэта "Зямля і воля":

1. Нейтралітэт у адносінах да ўсіх асоб, якія жадаюць вылучацца кандыдатамі ў Прэзідэнты.

2. Гуртаванне вакол ідэі пераменаў у грамадстве.

3. Прадастаўленне магчымасці сельскім выбаршчыкам удзелу ў вызначэнні адзінага кандыдата ад шырокай кааліцыі.

Вельмі важна, што ідэю стварэння аргкамітэта "Зямля і воля" падтрымалі прафсаюзы АПК. Таму важна ўстанавіць кантакты з усімі прафарганізацыямі калгасаў, саўгасаў, іншых прадпрыемстваў і ўстаноў. Магчыма, некаторыя з іх будуць асцярожнічаць, але ўжо цяпер ёсць актыўныя людзі. Як кажуць, стукайся і табе адчыняць.

Кожны, хто даў згоду працаваць у аргкамітэце "Зямля і воля", тым самым дае згоду быць членам ініцыятыўнай групы выбаршчыкаў. Трэба рыхтаваць спісы членаў ініцыятыўнай групы.

Прэзідэнцкімі выбарамі палітычнае жыццё не скончыцца. Адзін Прэзідэнт рэвалюцыі ў вёсцы не зробіць. Палітычныя правы і эканамічныя інтарэсы жыхароў сельскай мясцовасці трэба надзейна абараніць праз парламент. Менавіта парламентам прымаюцца законы, размяркоўваецца бюджэт, вызначаюцца памеры падаткаў, мытныя пошліны, узровень сацыяльных выплат. Каб рашэнні прымаліся парламентам з улікам нашых інтарэсаў, трэба мець у ім уплывовую групу дэпутатаў-аграрнікаў, якія аб'яднаны адзінай праграмай дзейнасці. Распрацаваць такую праграму, падабраць сумленных людзей для працы ў парламенце і арганізаваць іх абранне здольна толькі **масавая палітычная партыя жыхароў сельскай мясцовасці.**

Калі ж такой партыі няма, то падбор кандыдатаў, арганізацыю выбараў і падлік галасоў ажыццяўляюць уладныя структуры. Шляхам падману і падтасовак яны праводзяць у парламент патрэбных ім людзей. Апошнія выбары — яскравая сведка гэтаму. Высновa: драпежніцкая палітыка цяперашняй улады адносна жыхароў сельскай мясцовасці будзе працягвацца да таго часу, пакуль сельская мясцовасць не будзе мець масавай палітычнай партыі.

Яшчэ 23 лютага 1991 года была ўтворана Беларуская Сялянская партыя. Але яна не стала масавай. Чыноўнікі ад улады адчулі небяспеку ў пераменах на вёсцы, якіх дамагалася БСП, і пачалі аплёўваць нашу праграму і дыскрэдытаваць партыю. Многія вяскоўцы ў той час ім паверылі. На самой справе чыноўнікі ратавалі сваю кармушку.

Мы лічым, што тэрытарыяльныя арганізацыі Беларускай Сялянскай партыі павінны стаць надзейным падмуркам, на якім адбудуецца магутная палітычная партыя жыхароў сельскай мясцовасці.

На карысць гэтага сведчаць наступныя факты:

1. БСП з'яўляецца старэйшай палітычнай партыяй у найноўшай гісторыі Беларусі і мае абгрунтаваную праграму АДРАДЖЭННЯ ВЁСКІ.

2. БСП заўсёды выступала за аб'яднанне ўсіх жыхароў сельскай мясцовасці па вырашэнню іх сацыяльна-эканамічных праблем і ніколі не здраджвала іх інтарэсам.

3. БСП не нясе адказнасці за эканамічны і палітычны крызіс у краіне, бо яна не мела сваіх прадстаўнікоў ва ўрадзе дзяржавы.

*Паважаныя сябры! Нам трэба выкарыстаць падрыхтоўку к правядзенню прэзідэнцкіх выбараў для стварэння масавай палітычнай партыі сельскіх жыхароў. Гэта двухадзіная задача арганізацый БСП у цяперашні час. Трэба зразумець, што за нас ніхто нічога не зробіць. Пара дзейнічаць самім. Утварэнне арганізацый Сялянскай партыі — важкі крок на шляху да лепшай будучыні.*

**Цэнтральная Рада БСП.**



**Даярка калгаса "Запаветы Леніна" Крычаўскага раёна Галя Канашкава надаіла ў 2000 годзе ад 60 кароў каля 200 тон малака.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

# Клопаты агароднікаў і садоўнікаў у лютым

Ужо зараз трэба праверыць, ці дастаткова ў вас назапашана насення ўсіх культур, якія вы збіраецеся сёлета вырошчваць на сваёй зямельцы. *Чаго не хапае, трэба тэрмінова прыдбаць.* А штокольвечы ўжо і сеяць трэба ў "міні-агародзе" на падаконніку. У лютым неабходна тое-сёе пасеяць на расаду.

Лепшым днём для пасеву ранняй капусты будзе 28 лютага. Добрымі днямі для сяўбы перцу саладкага будуць 24-28 лютага, а для памідораў і фізалісу — вечарам 25 і з раніцы да вечара 26 і 27 лютага.

Ужо 18-19 і раніцой 20-га лютага — лепшыя дні для сяўбы каранёвага сельдэрэю.

Калі вы ацяпляеце хату ці лецішча дровамі ці торфам, то збірайце попел — крыніцу калію, фосфару, кальцыю, разнастайных мікраэлементаў для харчавання вашых раслін. Лепш за ўсё попел прасейваць і захоўваць сухім у поліэтыленавых мяшках ці ў кардонных або драўляных скрынях.

Небяспечны ў лютым перапады тэмператур для пладовых дрэў, калі днём нуль і вышэй у тэрмометры, ды яшчэ і сонейка прыгравае, а ноччу маразяка, бо тады з паўднёвага боку трэскаецца кара дрэў. Каб абараніць іх ад гэтага, трэба ў бліжэйшыя дні, хоць нават сёння, або заўтра, калі тэмпература не ніжэй мінус 5 градусаў, пабяліць ствалы і тоўстыя шкілетныя галіны дрэў.

Лютаўскія адлігі небяспечныя і для суніц, іншых ягад, калі на іх плантацыях стаіць вада. Неабходна яе спусціць, пракапаўшы ручаіны. Інакш карнявая сістэма і самі расліны загінуць ад нястачы кіслароду ў глебе ў выпадку ўтварэння ледзяной коркі.

# Люты нам падкажа, якім будзе лета

## (Народныя прыкметы аб надвор'і)

**10 лютага:** Яфрэмаў дзень (Ахрэм). У даўнія часы старыя казалі: "Падзьме вецер на Ахрэма — лета будзе вільготнае і халоднае".

**14 лютага.** Трыфан. Ноччу неба зорнае — будзе позняя вясна, зорак шмат — вясне доўгі шлях.

**15 лютага.** Стрэчанне. Зіма з летам страчаецца. Зіма хоча лета замарозіць, ды ад патугі іншы раз пацее. Таму ў гэты дзень могуць быць і маразы, і адлігі. І кажуць, якое надвор'е на Стрэчанне, такая і вясна будзе. Калі ідзе снег — вясна будзе дажджлівая. Калі неба зорнае — зіма не хутка заплача. Калі будзе халадэча — вясна будзе позняя і халодная. У гэты дзеньназіралі за сонцам: калі яно перад заходам выглядае скрозь абл окі, значыць, прайшлі апошнія маразы, калі зусім не пакажацца, чакалі моцных маразоў на Ўласа (24 лютага). Ціхі і воблачны дзень на Стрэчанне абяцае добры ўраджай збожжа і садавіны. Капялі на Стрэчанне — ураджай на пшаніцу.

**17 лютага.** Мікола Студзёны. Рэдкі год без маразоў ці завірух. Нават прымаўку склалі: "На Студзёнага Міколу снегу наваліць горы".

**21 лютага.** Захар'я Серпабачац. У гэты дзень рыхтавалі сярпы да жніва. Старыя вучылі моладзь: "Не тады сярпы вайстрыць, калі на жніво йіцьць".

**23 лютага.** Прахор.

**24 лютага.** Улас — заступнік жывёлы. Аб гэтых днях гаварылі: "Прыйшоў Прахор ды Ўлас — хутка і вясна ў нас", "Іншы раз мароз абляча на Ўласа да слёз". Бо ў гэты дзень маглі быць і Ўласаўскія маразы, і Ўласаўскія адлігі.

**28 лютага.** Анісім Зімабор. У гэты дзень зіма з вясною пачынае барацьбу: каму ісці спераду, а каму назад павярнуць.



## Да ўвагі чытачоў

Калі вы каго-небудзь віншуеце з днём нараджэння ці з якой іншай нагоды, то, калі ласка, указвайце дату, звязаную з гэтай падзеяй. Трэба таксама імкнуцца дасылаць у рэдакцыю купон з тэкстам не пазней, чым за 15 дзён да гэтай даты, бо рэдакцыя дасылае макет газеты ў Магілёўскую друкарню за тыдзень да выхаду газеты ў свет. Бо самі ведаеце, як хутка дастаўляе карэспандэнцыю пошта.

Улічвайце і тое, што газета выходзіць раз на тыдзень, менавіта ў чацвер. І лепш будзе, калі газета павіншуе, чым вы хочаце павіншаваць, на дзень-два раней, чым пазней адметнай даты.

# Дураки у власти считают, что вокруг них одни болваны

*(Продолжение.*
*Начало на 1-й стр.)*

На вопрос секретарей райкома "Что случилось?", те пожали плечами и поведали: "Надо поговорить с самим зоотехником, ибо и нам ничего толком не известно. Но зоотехник, закрылся в своем доме, никого в дом не впускает и сам не выходит.

Тогда один из секретарей направился к дому главного специалиста колхоза по животноводству. Заверив того, что его и пальцем никто не тронет, нужно только установить истину, что произошло между ним и "первым".

Наконец зоотехник согласился на беседу.

Оказывается, первый секретарь, заскочив на ферму, где откармливались бычки и которым только что был задан корм в кормушки, запустил руку в зеленую массу и зажав в горсти измельченный клевер швырнул его с силой в лицо зоотехнику с криком: "Этой сгоревшейся травой я буду кормить тебя самого!"

*У молодого специалиста сработала защитная реакция, и он запустил в обидчика шлемом мотоциклиста, который в тот момент держал в руке.* К счастью (или к сожалению?), тот пролетел мимо головы пришельца, ударился о стену сарая и вдребезги разбился.

Посоветовавшись, все собравшиеся пришли к выводу: зоотехник не виноват, его действия вызваны первым секретарем. Но вот как укротить всесильного в масштабах района деятеля? Это была проблема из проблем, потому как у него была, все понимали, "рука" "там", выше.

Можно было бы привести еще с десяток порочных выходок первого, но достаточно еще одного примера. Из тогдашних его "методов руководства".

Прикатил он утром на новеньком "УАЗике" в один из колхозов и ну отчитывать: "Почему не начали сев?" А было это в начале апреля. Ему говорят: "Рановато еще, Василий Павлович, грязно, почва не созрела, будут трактора вязнуть на пахоте". А первый пуще раззадорился: "Бездельники, да я вам сейчас докажу, что сеять уже можно,техника пройдет. Я сейчас все ваше поле перевезу вдоль и поперек". И он рванул свой "УАЗик" по поднятой осенью зяби. Метров через 40-50 от дороги машина увязла в почву по самые оси. Мотор сначала взревел не своим матом, а затем вовсе заглох.

Пришлось пригонять на поле гусеничный трактор. И тот с великим трудом вытащил легковушку с двумя ведущими мостами на дорогу.

Первый осрамился тут окончательно. Был осмеян. Больше года он в этом колхозе не показывался.

Самодурство всесильного начальника не могло длиться бесконечно. Руководители хозяйств района написали коллективное письмо в тогдашний ЦК КПСС. *Людей избавили от негодника.* Дела в районе пошли на поправку.

Правильно утверждают, что от дураков у власти, которых присылают на места верхи, жди беды.

А какова дальнейшая судьба Василия Павловича?

Можно сказать, традиционная. *Он получил благоустроенную добротную квартиру в Могилеве и работу с окладом, очень прилично обеспечивающим его материальные и иные потребности.*

**Александр РЯБЦЕВ.**

**Гаючая флора**

# Гарчыца

Гарчыца ёсць белая і чорная. Гісторыя яе прымянення налічвае стагоддзі. Белая гарчыца валодае больш пяшчотным смакам у параўнанні з чорнай, больш вострай, пад стаць хрэну. Белая больш ужываецца ў кулінарыі, чорная — у фармацэўтыцы, для лячэння гіпертанічнай хваробы, склерозу, захворванняў печані і жоўцевага пузыра, расстройства стрававання, метэарызму, экземы скуры і ішыясу.

Гарчычнае насенне прымяняецца пры кансерваванні грыбоў, рыбы, мясных страў, квашэнні агародніны.

Дагэтуль гарчыца — любімая прыправа ва ўсім свеце.

Нажаль, нашы жанчыны развучыліся рыхтаваць гарчычныя соусы, падлівы, якія не толькі паляпшаюць смак страў, але і дапамагаюць мужчынам справіцца з пэўнымі складанасцямі. Ды і "халодным" жанчынам было б карысна любіць стравы з гарчыцай, каб ім хацелася мужчынскай ласкі.

Гарчыца дапамагае лячыць *запаленне лёгкіх і бранхіты. Піфагор паважаў гарчыцу.* Ён казаў: гарчыца ёсць трава, якая мае ў сабе вялікую сілу і ўзбуджае вялікую похаць.

# Дзівасіл

Для лекавых мэт нарыхтоўваюць карнявішчы, карані і лісця, калі расліна цвіце. У народнай медыцыне знайшоў прымяненне ад лячэння ран, лячэння туберкулёзу лёгкіх, запаленчых працэсаў у нырках і печані. *Жанчын засцерагае ад дачасных родаў.* Прыпыняе матачныя крывяцячэнні, аднаўляе і наладжвае менструальны цыкл у маладзенькіх дзяўчат. *Незаменны пасля стрэсаў і працяглых хвароб.*

*Рыхтуюць адвар дзівасілу так: сталовую лыжку на шклянку кіпеню. Піць цёплым па паўшклянкі 2-3 разы на дзень за гадзіну да яды.*

**Куток гаспадыні**

# Адварная рыба з бульбай і шпікам

Свіны шпік парэзаць дробнымі кавалачкамі, падсмажыць на патэльні разам з цыбуляй, ачышчанай і нарэзанай скрылёчкамі, пакласці ачышчаную бульбу, таксама парэзаную скрылькамі, пасыпаць соллю і перцам і дадаць шклянку вады. Накрыць патэльню крышкай і гатаваць 5 хвілін на малым агні. Пасля гэтага падрыхтаваную і нарэзаную рыбу пакласці на бульбу і давесці да гатоўнасці.

Пры падачы на стол кавалкі рыбы выкладваюць на падагрэтае блюдца, абкладаюць кругом бульбай і пасыпаюць дробна нарэзанай зялёнінай пятрушкі.

*На 750 г рыбы — 800 г бульбы, 1-2 цыбуліны, 100 г шпіку.*

**Анекдот**

— Што такое звышрассеянасць?
— Гэта, калі муж з камандзіроўкі прывозіць жонцы кальe, а каханцы — брудную бялізну.


**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N 141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 24 гадзіны 7 лютага 2001 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 3733 ас. Аб'ём I друк. аркуш. Заказ № 6.

**Галоўны рэдактар
Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**